# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1180) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 8 КАСТРЫЧНІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.

Мы ехалі даўжэзнай вясковай вуліцай у Новым Беразове. Начальнік Гайнаўскай гміны Ежы Буйноўскі спыніў машыну ля старой запушчанай хаты.

Я недаверліва паглядзеў на яго. Начальнік абяцаў завезці мяне ў госці да аднаго з найлепшых гаспадароў не толькі ў Новым Беразове, але і ў цэлай Гайнаўскай гміне.

Гэта тут? А чаму не ў адным з гэтых, густа паабапал дарогі рассеяных, пышлівых асабнякоў з цэглы і бетону? Іх многа ў Новым Беразове. Ды наогул гэтая вёска мае ўсё, што ёй патрэбна. Ёсць васьмікласная школа з багатымі традыцыямі, ёсць старынная царква, дзейнічае вясковы клуб, які праславіўся ў ваяводстве даволі багатай і разнастайнай дзейнасцю.

## НЯМА ШТО РАЎНЯЦЬ

— Наш клуб у мінулым годзе атрымаў 100 тысяч злотых узнагароды, — сцвярджае настаўнік новаберазоўскай школы Анатоль Швед, які з'яўляецца членам грамадскай праграмнай рады гэтага клуба, а жонка яго ад самага пачатку кіруе працай цэнтра вясковай культуры.

Узнагарода і прызнанне — перш за ўсё за актыўны ўдзел у шматлікіх мерапрыемствах пад лозунгам **„Акцыя — вясковае асяроддзе“**. Затым звыш 50 дзяўчат і жанчын з Новага Беразова і наваколля праходзіла тут курс па грамадска-палітычнай падрыхтоўцы. Іх браты і мужы здабывалі веды, каб атрымаць пасведчанне кваліфікаванага земляроба.

Усё гэта ў адну хвіліну, як у фільме, праляцела ў мяне перад вачыма, калі стаяў я і ўзіраўся на гэтую старэнькую хатку.

— Пачакайце хвіліну, — сказаў на-

(Працяг на стар. 4)



**Па роднай зямлі.** *У даліне Шудзялава — цэнтр прасторнай гміны.*

*Фота В. Рудчыка.*

## ЗАПРАШАЕМ ДА ДЗЕЯННЯ

Ужо другі раз праходзіць на Беласточчыне конкурс **„Культурнай актыўнасці вясковых асяроддзяў“**.

Няма чаго таіць: пры аб'яўленні гэтага конкурсу мала было такіх, хто б прарочыў яму шырокі размах і вялікую папулярнасць. Амаль усё культурнае жыццё ў нашай краіне ўжо даўно патанула ў паводцы фестываляў, конкурсаў, аглядаў, канфрантацый, сімпозіумаў і г.д., а дзеячы так званага культурнага фронту ўсе вынікі сваёй працы прывыклі мерыць толькі колькасцю такіх „мерапрыемстваў“.

Але беластоцкі конкурс, на шчасце, не патануў у гэтай разбрызганай фестывальна-конкурснай плыні. Ён знайшоў сваё самастойнае русла — глухія беластоцкія вёскі і мястэчкі, і свой напрамак — разбудзіць і заахвоціць звычайнага чалавека да ўдзелу ў культурнай дзейнасці. Пры гэтым ініцыятары шырэнне чытальніцтва і больш актыўны ўдзел у розных формах працы мясцовых бібліятэк.

**Няма неабходнасці даказваць тое, што ўсе гэтыя напрамкі дзейнасці зусім такія самыя, як і гурткоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства.** Калі гаварыць пра іх не афіцыяльнымі сухімі сфармуляваннямі, то ўсе яны абазначаюць як мага шырэйшы ўдзел усіх жыхароў у грамадскім і культурным жыцці сваёй мясцовасці. Для конкурсу не адарваліся ад шэрага ўзлоння нашай зямелькі, але паставілі такія мэты і заданні, якія пад сілу жыхарам нашых вёсак і мястэчак. Вось якія яны: 1) пашыраць самадзейны мастацкі рух, арганізаваць гурткі зацікаўленняў, апекавацца здольнымі людзьмі; 2) ушаноўваць і далей развіваць створаныя папярэднімі пакаленнямі культурныя каштоўнасці; 3) папулярызаваць дасягненні сваёй вёскі, мястэчка, гміны; 4) удзельнічаць у розных грамадскіх і гаспадарчых конкурсах. Разбуджаную ахвоту людзей, каб унесці свой уклад для агульнага дабра, конкурс накіроўвае на: 1) беражлівае выкарыстоўванне існуючых і клопаты пра паўставанне новых аб'ектаў культурнай дзейнасці (дамоў культуры, святліцаў, клубаў і г.д.); 2) удзел у складанні і ўдасканаленні праграмы, форм і метадаў працы гэтых аб'ектаў; 3) павышэння культуры адпачынку, эстэтыкі месца працы і жыцця кожнага чалавека; 4) больш актыўны ўдзел у розных грамадска-палітычных арганізацыях, аб'яднаннях, клубах; 5) пакожнага звычайнага чалавека з любой нашай вёскі ці мястэчка ўдзел у конкурсе „культурнай актыўнасці вясковых асяроддзяў“ абазначае вось што:

Трэба часцей заглядаць у бібліятэку ці яе пункт пазычванняў, знайсці там цікавую для сябе кнігу, у тым ліку і беларускую, пабываць на спатканні з пісьменнікам ці іншым цікавым чалавекам, можа гэта быць таксама наш „белавежац“ ці журналіст „Нівы“, прыняць удзел у чытальніцкім конкурсе, напрыклад, у конкурсе „Праца і барацьба беларускага народа на працягу 60 год у беларускай савецкай літаратуры“, што цяпер праводзяць бібліятэкі і гурткі БГКТ; прадоўжыць гадавую падпіску на розныя часопісы, сярод іх і на нашу „Ніву“, калі такой падпіскі не было — пачаць яе і весці рэгулярна.

Зацікавіцца тутэйшай народнай творчасцю, прыслухацца і прыглядзецца да яе, успомніць самому і спытаць у старэйшых ды спрабаваць знайсці ў ёй тую блізкую

(Працяг на стар. 4)



**БЕЛАРУСКІ МУЗЫКАЛЬНЫ АГЛЯД-78**

*Іграюць акардэаністы з Бельскай беларускай пачатковай школы Багдан Драздоўскі (справа) і Мірaслаў Катэльчук.*

*Фота М. Гайдука.*

## Новыя вершы

### ПЛЫНЬ

*Заход праменіцца над водамі*
*Святлом стагоддзяў трапяткім...*
*І нас, як продкаў, поўніць одумам*
*Негаманкая плынь ракі.*

*О, колькі*
*мігатлівых кропелек*
*Адзіхацела і сплыло...*
*Імён, падзей, надзей, захопленых*
*У незваротнасці палон.*

*Чаму, скажы, плынь хуткацечная,*
*Не забярэш ніяк з сабой*
*Валун, што лёг на плечы вечнасці, —*
*Адвечны*
*чалавечы*
*боль?*

**Павел Марціновіч**

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ

Здаўна завёўся ў нашай сям'і такі звычай, што абавязкова кожны год з першага сёлетняга ўраджаю самі пяклі мы вялікі бохан хлеба, які пасля, быццам каравай на вяселлі, бацька вельмі ўрачыста дзяліў між усімі членамі сваёй сям'і, а таксама частаваў гэтым першым хлебам усіх гасцей, нават зусім чужых, якія толькі паяўляліся на парозе нашай старэнькай хаты.

— Зрабіце ласку, — гаварыў ён пры гэтым, — хлеб-соль ад нас прыміце. Хай здароўе і шчасце вас не пакідаюць...

Цяжка мне сказаць, адкуль выводзіцца гэтая цырымонія з першым хлебам. Магу толькі здагадацца, што пачалася яна тады, калі нашы продкі сапраўды чакалі гэтага хлеба з новага ўраджаю, як адзінага ратунку ад галоднай смерці. То ж я сам яшчэ з уласнага жыццёвага вопыту добра ведаю, што такое гэты галодны „дажніўны“ перыяд. Найчасцей тады, калі пачынаўся сенакос і калі трэба было вельмі цяжка працаваць, маці расчыняла апошнюю дзежу хлеба і неяк сумна аб'яўляла нам:

— Вось і ўсё. Больш мукі няма. Прыдзецца чакаць да новага ўраджаю...

Для нас, для дзетвары, гэта перш за ўсё абазначала, што трэба будзе на досвітку выганяць кароў „на расу“, каб хаця малако было, што каня прыдзецца пасвіць цэлую ноч, каб удзень мог працаваць. Сёстры ганяліся па полі за зеллем, каб неяк пракарміць свіней, якія не маглі спадзявацца восыпкі са збожжа. А ў жніво прыносіла маці ў поле на абед бульбу-таўканіцу, малако і халадзец...

Так мы перажывалі гэты дажніўны перыяд. А найдзіўнейшае цяпер, калі гэта ўспамінаю, здаецца мне тое, што ніхто асабліва не наракаў на сваё жыццё. Галадалі і працавалі цяжка, да апошніх сіл, ад усходу да захаду сонца.

Можа таму і адносіліся мы да хлеба, як да чагосьці святога, таемнага. Нельга было, для прыкладу, пакласці бохан хлеба сподам дагары, гэта лічылася грэхам, а ўжо безумоўна кожнае з нас даставала ад бацькоў па руках, калі беражліва не пазбірала са стала, або — не дай бог — з падлогі рассыпаных крышынак хлеба.

Пякла маці хлеб раз у тыдзень. З адной дзежы, якой да нічога іншага нельга было выкарыстоўваць, выходзіла не менш і не больш, як сем велізарных, карычневых зверху, духмяных боханаў хлеба. Першы з іх абавязкова быў абазначаны знакам крыжа і выдзяляўся для яды апошнім. Нельга было двух боханаў абазначыць крыжам. Калі гэта праз няўвагу здарылася, тады ў хаце пачынаўся плач і лямант, бо гэта апавяшчала непазбежнае няшчасце. Гаварылі, што гэты другі крыж для кагосьці з блізкай сям'і, што хтосьці памрэ. Збягаліся цёткі і кумы, ды ўсе гуртам раілі, як адгарадзіцца ад гэтай бяды. Найчасцей канчалася ўсё гэта тым,

(Працяг на стар. 4)



*А. Адамовіч з жонкай Ядвігай у белавежскім Палацовым парку.*

# АЧАРАВАНЫ ПУШЧАЙ

У Белавежскай пушчы ён быў ужо чатыры разы. Апошнія два разы — у мінулым і бягучым годзе, у час водпуску, супольна з жонкай Ядвігай. Пушча яго зачаравала. Гаворка аб Анджэю Адамовічу — вядомым лодзінскім аўтару гумарыстычных малюнкаў. Мне пашанцавала пазнаёміцца з ім бліжэй. Ён вельмі сімпатычны і скромны чалавек. А гэта даволі рэдкія прыкметы ў людзей, якія здабылі славу. Пастанавіў я прадставіць яго чытачам „Нівы".

**— Адкуль бярэце думкі для сваіх малюнкаў?**

— Назіраю ўважна штодзённае жыццё, а яно так багатае рознымі смешнымі здарэннямі, што толькі пераліваць на паперу.

**— А што Вас захапіла ў Белавежы?**

— Мог бы я адказаць, што перш за ўсё спакой, якога ў гаманлівай і задымленай Лодзі не адчуеш, але гэта, зразумела, не найважнейшае. Самае важнае ў Белавежы, — гэта пушча, а дакладней кажучы, яе чароўнасць, якая заключаецца ў непаўторнасці. Хаця ўбачыў я кавалак свету, такой самай пушчы нідзе больш не спаткаў. У Белавежскай пушчы можна аўтэнтычна адпачыць, а адначасова многа чаго цікавага ўбачыць. Толькі тут магу гадзінамі назіраць жыццё, якое ідзе ў кронах дрэў ці ў густой траве. Тут мне найлепш думаецца.

**— А ці ёсць у Белавежы штосьці, што не падабаецца Вам, нервуе Вас?**

— Нейкіх больш сур'ёзных закідаў не маю. Але з дробных прывяду прыклад хаця б недахопу на чыгуначнай станцыі камеры хавання багажу (рэч важная перш за ўсё для турыстаў), паўсюднае парушэнне п'янымі экскурсантамі начнога адпачынку жыхароў Белавежы і прыезджых турыстаў, начуючых у начлежных дамах. Прыгадзілася б лепшае забеспячэнне мясцовых крамаў прадуктовымі таварамі.

**— Ці выбіраецеся ў Белавежу ў наступным годзе?**

— Калі нішто не стане на перашкодзе, прыеду напэўна.

**— Ці маглі б Вы спецыяльна для „Нівы" намаляваць некалькі гумараў?**

— З найбольшай прыемнасцю. Прашу таксама перадаць ад мяне чытачам „Нівы" сардэчныя прывітанні.

**— Дзякую!**

**Пётр Байко**
Фота аўтара
Малюнкі **А. Адамовіча**







## З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ
## СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА




Зоймемся чалавекам — тварцом і цэнтральнай постаццю ў фальклоры. Пачнем аднак не ад моманту нараджэння, а крышачку раней, ад цяжарнасці жанчыны. Бытавала перакананне, што менавіта ўжо тады, калі арганізм будучага дзіцяці быў яшчэ часткай арганізма маткі, ад якога быў залежны, фарміраваўся яго характар. Згодна з перакананнем, цяжарная жанчына быццам бы ўтрымоўвала кантакт са звышнатуральнымі сіламі і ўсе яе жаданні неабходна спаўняліся, а адначасова была вельмі падатная на розныя ўплывы, што адбівалася на будучым дзіцяці, на яго характары, знешнім выглядзе і здароўі. І калі, з аднаго боку, цяжарную жанчыну баранілі перад рознымі злымі ўплывамі — вачэй, шкодніцкай магіі і быў цэлы рад перасцярог што можна, а чаго нельга, каб дзіця было здаровым і шчаслівым, то, з другога боку, пабойваліся, бо не заўсёды яе жаданні былі добразычлівымі. Стараліся ні ў чым ёй не адмаўляць. Перакананы былі, што адмова абавязкова раўнялася няшчасцю. Найлепш было тым, да каго цяжарная жанчына ўвогуле не хадзіла. Цяжарнай жанчыны нельга было біць. Многія інфарматары даказваюць, што ўдар па цяжарнай жанчыне пакідае след на будучым дзіцяці. Але віноўніку не праходзіла гэта бяскарна. Калі паявіцца ў яго сям'і дзіця, дык абавязкова будзе калекай. Нельга было яе пужаць, асабліва кідаць у яе плюгавымі істотамі: мышшу ці жабай, бо дзіця будзе мець на твары іх сляды. Хаця адначасова пры гэтым бытуе перакананне, што мышка — вялікая чорная пляма на целе чалавека — гэта вынік утрымоўвання маткай кантактаў з чортам. Людзей, якія гэтакім чынам здзекваюцца над цяжарнай жанчынай, заўсёды спатыкае кара. — Найчасцей гэта доўгая цяжкая смерць, смерць у вялікіх муках, гаворыць інфарматарка з Галіцкіх. Перапалох меў вялікі ўплыў на жанчыну, а асабліва, калі ён быў выкліканы агнём. Не павінна яна тады хапацца за галаву або твар, бо дзіця можа нарадзіцца дурным, або з чырвонымі плямамі.

Цяжарная жанчына ў сваю чаргу павінна высцерагацца гэтых нядобразычлівасцей, бараніцца перад імі. Яшчэ па сённяшні дзень бытуе ў народзе рад перасцярог, частку з якіх пастараемся зараз прывесці. Прыкладна, нельга было ёй спаць у тым месцы, куды даходзіла святло месяца, каб дзіця не было лунатыкам. Увесь час цяжарнасці павінна яна хадзіць у вывернутай сарочцы, што бараніла перад уплывам злых вачэй, бо менавіта заўрочанне вельмі шкодзіць будучаму дзіцяці, будзе яно ўвесь час скардзіцца на боль жывата. Нельга ёй таксама сароміцца сваёй цяжарнасці.

У ваколіцах Бельска бытуе прыказка „Яке маткі, таке дзяткі", якая выразна гаворыць аб тым, што дзіця набірае рыс маці. Праўдападобна, калі прыйдзе яно на свет, мае ўжо акрэслены характар і схільнасці. І таму маці, будучы ў гэтакім стане, не павінна красці, сварыцца і гэтаму падобнае. Адным словам, трэба высцерагацца таго, што сабе не мілае.

Таямніцай заставаўся і застаецца па сённяшні дзень пол дзіцяці і яго лёс. Былі аднак спробы адхілення ражка гэтай таямніцы. Меркавалі, што пол дзіцяці залежыць ад таго, хто першы лёг у ложак у час шлюбнай ночы, калі муж — будзе сын, калі жонка — дачка. Пол наступнага дзіцяці прадказвала папярэдняе. Калі перш пачало яно гаварыць „тата" — дык будзе сын, калі сказала „мама" — дачка. Цяжэй было з лёсам. Прадказвалі яго толькі ў час нараджэння дзіцяці. Было гэта нібы ўзалежнена ад дня нараджэння і размяшчэння планет.

Як відаць са сказанага, будучае дзіця было поўнасцю ўзалежнена ад маткі. Радзілася з сукупнасцю акрэсленых рыс, якія жыццё потым толькі развівала і дапаўняла.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

## НАША ДЗЕСЯЦІГОДКА

**Н**авейшая школа — такой у сваёй аснове ёсць і будзе 10-гадовая сярэдняя школа — абавязана даць давераным яе апецы дзецям і моладзі салідную сістэму ведаў і ўменняў, якія ім будуць патрэбны ў жыцці. Адначасова яна павінна сфармаваць ва ўсіх вучняў навуковы, рацыяналістычны светапогляд, прывіць ім пашану да працы і людзей працы, навучыць беражлівасці да грамадскай і індывідуальнай маёмасці, прывучыць дапамагаць людзям старым, слабым і хворым, выхаваць у духу патрыятызму і інтэрнацыяналізму. Шляхам фармавання адпаведных адносін у класных калектывах прывіваць патрэбу арганізаваць адпаведныя ўмовы жыцця, працы і адпачынку, а там, дзе гэта неабходна, забяспечыць матэрыяльную дапамогу ў яе шырокім разуменні, каб стварыць найлепшыя ўмовы жыцця і ўсебаковага інтэлектуальнага, грамадска-маральнага, эмацыянальнага і эстэтычнага развіцця.

Сістэматычна назіраючы за дзецьмі і моладдзю, за іх успрыйманнем навакольнай рэчаіснасці і паводзінамі, а таксама дзякуючы няспыннаму супрацоўніцтву з лекарам, педагогам і псіхолагам настаўнікі ў 10-гадовай сярэдняй школе павінны імкнуцца да ўсебаковага пазнання сваіх выхаванкаў, іх інтэлектуальнага ўзроўню, зацікаўленняў, мараў і жаданняў. І тады, праводзячы выроўніваючыя заняткі, арганізуючы акрэсленыя выхаваўчыя сітуацыі — а дзе гэта неабходна — імкнучыся затармазіць шкодныя цікаўнасць, паводзіны і патрабаванні і адначасова ўзмацняць і развіваць карысныя і каштоўныя педагагічна і грамадска запатрабаванні, зацікаўленні і імкненні вучняў.

Урэшце, 10-гадовая школа павінна давесці да сфармавання ў сваіх выхаванкаў умення лагічнага мышлення і рацыянальнай вучобы, развіваць інтэлектуальныя і працоўныя навыкі, якія прадбачвае праграма навучання.

## БАЦЬКІ І ШКОЛА

Перад 10-гадовай сярэдняй школай стаіць абавязак ажыццявіць пазнавальную, выхаваўчую, апякунскую, адукацыйную і шэраг іншых важных для далейшага развіцця грамадства функцый.

Гэтага чакаюць ад яе грамадска-палітычныя і дзяржаўныя ўлады, народная гаспадарка, бацькі.

А чаго чакае школа ад бацькоў?

Разнастайнасць заданняў, якія яна абавязана ажыццявіць, абумоўліваюць тое, што без дапамогі сваіх натуральных саюзнікаў, без бацькоў і апекуноў вучняў, ніякая школа не магла б найлепш выканаць пастаўленыя перад ёю заданні: падрыхтаваць сваіх выхаванкаў да жыцця і працы ў грамадстве і для грамадства, да ўдзелу ў сацыялістычнай культуры, для далейшай інтэнсіўнай працы над сабою.

У чым павінна праяўляцца і на чым засноўвацца супрацоўніцтва паміж домам і школай, паміж бацькамі і настаўнікамі, будзем прадстаўляць на старонках „Нівы" ў чарговых штомесячных адрэзках.

Цяпер жа коратка заўважым, што гэтае супрацоўніцтва павінна праяўляцца ў тым, каб даць усім пачынаючым вучобу дзецям аднолькавы старт, стварыць магчымасць вучыцца ў школе з самым высокім арганізацыйным узроўнем, забяспечыць вучняў неабходнымі матэрыяламі, запэўніць дома адпаведныя ўмовы для навукі і правільна арганізаваць дзень жыцця і працы дзіцяці. Адначасова супрацоўніцтва бацькоў з настаўнікамі павінна быць накіравана на тое, каб дзеці сістэматычна рыхтавалі ўрокі і выконвалі ўсе іншыя заданні, дадзеныя ім школай. Яна павінна зводзіцца да ажыццяўлення тых самых мэтаў і заданняў, на ўзаемным узгадненні пунктаў погляду, парадах і ўспамаганні. Урэшце, неабходна, каб гэтае супрацоўніцтва брала пад увагу псіхічны і фізічны ўзровень развіцця дзіцяці і самыя разнастайныя яго біялагічныя і псіхічныя патрэбы.

На такое супрацоўніцтва разлічвае школа, яго спадзяюцца настаўнікі, яно забяспечвае найлепшыя вынікі ў ідэйна-выхаваўчай, навуковай і апякунчай дзейнасці школы.

**др Мікалай Грыгарчук**

# Запрашаем да дзеяння

(Працяг са стар. 1)

свайму сэрцу красу, чуласць, жыццёвую праўду, пашану да простага чалавека і яго працы і многія іншыя скрытыя там вартасці. Калі ёсць здольнасці, то знайсці магчымасць іх выяўлення, не саромецца і пайсці спяваць у мясцовы хор, выступаць у тэатральным гуртку, іграць у музычным калектыве. Калі няма такіх калектываў, то спрабаваць арганізаваць іх, а калі ўжо і гэта не выходзіць, тады прыняць удзел як саліст ці салістка ў такіх конкурсах, як „Беларуская песня-79“, беларускім тэатральным конкурсе ці конкурсе народных музычных калектываў і музыкантаў, што цяпер праводзіць ГП БГКТ.

Пакапацца ва ўспамінах старэйшых людзей, прыгледзецца колішнім будынкам, паназіраць за рознымі дзіўнымі пагоркамі, насыпамі, каменнямі, даўнімі магіламі, старымі дрэвамі, спрабаваць разгадаць назвы палеткаў, лугоў, лясоў, прозвішчаў суседзяў і свайго і, ведаючы бясцэнную каштоўнасць усіх гэтых слядоў жыцця і дзейнасці нашых продкаў, рабіць усё магчымае, каб яны захаваліся, не былі знішчаны, раскрадзены, расцярушаны па свеце. Самому ўдзельнічаць і дапамагаць іншым у складанні гісторыі свае́й мясцовасці, пісанні хронікі яе. Разбуджаць і ўмацоўваць патрыятычныя пачуцці: любоў да сваёй роднай мовы, на роднай традыцыі, пашану да тых змагароў, што аддалі свае сілы і часта нават жыццё за вялікія ідэалы вольнасці і справядлівасці ці будзе гэта былы член КПЗБ і КПП, салдат Людовага Войска Польскага і Савецкай Арміі, ці партызан, ці грамадскі дзеяч у часы станаўлення народнай улады, бо надта ж многа іх выйшла з нашых вёсак і мястэчак.

Прымаць удзел у розных агульных урачыстасцях і святкаваннях, турнірах, як хоць бы і ў папулярных фэстынах Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Дапамагаць у іх правядзенні, дбаць пра высокі ўзровень, эстэтыку, парадак.

У правілах конкурсу прадбачваецца і пашырэнне ведаў аб фільме (напрыклад, гэта мог бы быць і цяперашні беларускі фільм), заснаванне гурткоў любіцеляў кіно.

Зразумела, нельга абмінуць і пошукі новых, усё цікавейшых форм працы ў дамах культуры, святліцах, клубах. Патрэбна тут і дбайнасць пра іх належны знешні і ўнутраны выгляд, густоўныя дэкарацыі і г.д.

Іменна таму, што ўсе гэтыя справы блізкія кожнаму, конкурс „Культурнай актыўнасці вясковых асяроддзяў“ ужо пасля першага года яго правядзення прынёс нядрэнныя вынікі: прыступіла да яго шмат вёсак і мястэчак, заўважальна ажывілася ў іх грамадскае і культурнае жыццё, паўсталі новыя самадзейныя калектывы, выраслі новыя і сталі больш утульнымі і прыемнымі старыя культурныя аб'екты, актыўней пачалі працаваць мясцовыя грамадскія і маладзёжныя арганізацыі, словам, людзі пачалі варушыцца не толькі на сваім панадворку ды загоне.

З апраўданым гонарам прыгадваем, што за мінулы год першае месца заняла вёска Райск, гм. Бельск, на адным з першых аказаліся Гураны гм. Крынкі і шэраг іншых мясцовасцей, дзе жыве беларускае насельніцтва. Былі прызнаны таксама 62 асабістыя ўзнагароды самым лепшым удзельнікам конкурсу, а сярод іх многа было дзеячоў БГКТ.

Цяпер конкурс у разгары. Ён пачаўся 1 сакавіка 1978 г. і закончыцца 28 лютага 1979 года. Прыступіла да яго шмат вёсак і мястэчак. Робяць яны многа дасканалых спраў. І ў такі час, калі паволі набліжаецца канец палявым працам, даўжэюць асеннія змрочныя вечары і ўсё мацней цягне чалавека да людзей, да размовы, добрай гульні, культурнага адпачынку, спробаў выявіць свае дараванні, будзе прыбываць ахвочых удзельнічаць у гэтым конкурсе, бо ён не проста адзін з тых соцень конкурсаў, але надта карыснае дасягненне для дабра ўсіх нас.

**М. Гайдук**

(Працяг са стар. 1)

# Хлеб наш надзённы

што цэлая сям'я ішла ў царкву, прыступала да прычасця, давала на абедню і прывозіла ў хату папа, каб пакрапіў усе куткі свянцонай вадой...

...І ў гэтым годзе выпекла мая Палашка традыцыйны бохан хлеба з першага сёлетняга ўраджаю. Пераламаліся мы ім, пажадалі добрага здароўя, пасядзелі за сталом, успомнілі сваіх дзяцей, і неяк сумна нам стала... Ні я, ні яна не сказалі ані слова, а падумалі аб адным. І тады Палашка заявіла:

— Завязі ты ім наш першы сёлетні хлеб. Я падумала пра іх, калі печку тапіла, калі дзежу рыхтавала... Вось два асобныя каравайчыкі спецыяльна для іх я спякла...

Найперш паехаў я ў Варшаву. Еду, гляджу ў вакно і сэрца ад жалю баліць. Гэта ж палавіна верасня, канец лета, ужо бярозы пазалотай абліліся, а тут вось на сенажаці другі пакос сена ў вадзе плавае, на палях у барознах таксама поўна вады і... збожжа на полі. А дождж лье без перапынку...

І тады неяк інстынктоўна прыцісвуў я да грудзей торбачку з сёлетнім хлебам, ды падумаў: „Берагчы хлеб нам трэба...“

Дзеці прынялі мяне багата. Пасадзілі за стол, у вялікую кампанію папрасілі, дзе толькі розныя разумныя клічкі ў паветры, як ластаўкі, крыжаваліся. То „пан магістр“, то „пан доктар“, то „пан дырэктар“, а ўсе разам маім хлебам захапляліся, і маёй каўбасой, і шынкай... З іх разумнай гутаркі, з жаночага шчабятання зразумеў я толькі тое, што цяпер найлепш ехаць у Румынію і Венгрыю, бо там долары амаль напалавіну таннейшыя, чым у нас...

На другі дзень папрасілі мяне, каб я схадзіў у краму за прадуктамі.

— А пры нагодзе, — зашчабятала ўнучка, — выкіньце, дзедку, вядро са смеццем, бо я ў школу спяшаюся.

Узяў я вядро, а там — божа мой! — поўна ўчарашняга хлеба, што астаўся ад багатага прыёму.

— Ці вы заўсёды выкідаеце хлеб на сметнік? — пацікавіўся я.

— А што з ім рабіць? — адказала мне дачка. — Ён жа ўчарашні, а сёння ў краме прадаюць ужо свежы хлеб...

І тады здалося мне, што замест пластмасавага вядра, поўнага скібак хлеба, трымаю я ў руках сяміпудовы цяжар. У вачах закружылася, у грудзях закалола...

Апамятаўся я ў... бальніцы, адкуль і пасылаю вам сардэчныя прывітанні.

**Максім Нурэцкі**

# Лесу ніколі не замнога

У Беластоцкім ваяводстве ёсць вялікія лясныя комплексы і пушчы, якія дастаўляюць кожны год многа высакаякаснай сыравіны для дрэваапрацоўчай прамысловасці. У пары са здабываннем драўніны павінна ісці і аднаўленне ляснай плошчы і пасадка лесу.

Гаспадарчую дзейнасць у дзяржаўных лясах вядуць надлясніцтвы. Наведалі мы адно з іх, у Бельску Падляшскім. Ахоплівае яно гміны: Чаромхаўскую, Кляшчэлеўскую, Дубіцкую, Бельскую, Вышкаўскую, Чыжоўскую, Арлянскую, заходнюю частку Нараўскай і паўднёвую частку Заблудаўскай гмін. Дзяржаўныя лясы займаюць плошчу ў 11,5 тыс. гектараў. Ёсць яшчэ 20 тысяч прыватных лясоў.

За мінулыя гады найбольш пасаджана лесу ў лясніцтвах Чаромха, Кляшчэлі, Дубічы Царкоўныя і ў іншых. У дзяржаўных лясах 5 832 га і столькі ў прыватных. Загаспадаранне патрабуюць сялянскія лясы. Неабходны тут спецыяльныя карчавалкі і плугі для глыбокай воркі. У многіх выпадках няўдобіцы неабходна падсеяць вапнай і мінеральнымі ўгнаеннямі, бо толькі тады можна спадзявацца належнай аддачы. Угнаенні сеюць з самалёта. На тэрыторыі бельскага надлясніцтва пасеяна іх на 1,5 тыс. гектараў.

У Кляшчэлеўскім і Чаромхаўскім лясніцтвах загаспадаранне лесу дастасоўваецца да патрэб турыстыкі, беручы пад увагу перш за ўсё забеспячэнне ад пажараў. Таму пасаджана тут значна больш, чымсьці ў іншых аддзяленнях ліставага лесу і экзатычных дрэў. Усё дзеля таго, каб лес быў мяшаны, а тым самым біялагічна больш устойлівы. Тут таксама пад спецыяльным наглядам нават невялічкія вадасховішчы сярод лесу. Яны — таксама месца вадапою для звяроў і птушак.

На вялікіх плошчах няўдобіц будуць пасаджаны дрэўцы таполі, бярозы, ёлкі, а нават плантацыі ёлак. Ёлкі, вядома, неабходны для планавай вырубкі перад каляднымі святамі, каб не рубілі іх дзе папала са шкодай для лесу.

Бельскае надлясніцтва, каб запэўніць сабе людзей да працы, плануе заснаваць рабочыя пасёлкі ў Кляшчэлях і ў Грабаўцы.

Лес неабходны для драўнінай прамысловасці і яго неабходна садзіць, даглядаць. Лесу ніколі не замнога.

**(яц)**

ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Наша дружная сямейка...* *Фота М. Гайдука.*

(Працяг са стар. 1)

# Няма што раўняць

чальнік. — Я пайду паглядзець, ці ёсць дома гаспадар.

Гаспадара, на жаль, не было. На панадворку сустрэлі мы яго цесця. Пастарэлы ўжо чалавек ішоў праз прасторны панадворак, на якім за гэтай скрыўленай хатай красавалася сучасная вялікая абора, а побач стаяла таксама новенькая клуня.

— Вось бачыце, — заявіў начальнік, — гэта і ёсць прыкметы сучаснасці. Добры гаспадар заўжды пачынае ад пабудовы гаспадарчых будынкаў, а ўжо тады толькі думае пра выгоды для сябе і сям'і.

— Гэта не мой панадворак, — заявіў старэйшы селянін. — Я жыву крыху далей, а тут абсталяваўся мой зяць, які купіў сабе гэтую сялібу пяць гадоў таму назад.

Пятро Самасюк пражыў на гэтым свеце ўжо 64 гады. Меў 7 гектараў зямлі і лічыўся ў Новым Беразове не найгоршым гаспадаром. Трымаў ён каня, дзве каровы і дзве-тры ялоўкі. Цяпер на яго гектарах гаспадарыць зяць — **Антон Іванюк.**

— Як яму ўдаецца? — пытаю старэйшага селяніна.

— Няма што раўняць, — гаворыць ён. — Адных дойных кароў у зяця цяпер 6 штук, а яшчэ 5 мясных бычкоў і аж 10 яловак. Каб усё гэта пракарміць, купіў ён ад дзяржавы яшчэ пяць гектараў зямлі.

За клуняй пачуўся грукат трактара, і праз некалькі хвілін Антон Іванюк паявіўся на панадворку на сваім жалезным кані „Урсус-360“. Купіў яго ў студзені гэтага года.

— Гэты трактар прыдзялілі мы яму, — інфармуе начальнік, — бо без яго сапраўды цяжка было б весці такую гаспадарку.

За трактарам падскаквала на калдобінах вялікая фура, нагружаная пшаніцай.

— Гэта апошняе сёлетняе маё збожжа, якое асталося яшчэ ў полі, — кажа гаспадар. — Спяшаюся, бо трэба выкарыстаць кожную хвіліну спрыяльнага надвор'я.

Дапамагаюць яму жонка і дзве дачкі. Трэцяя дачка закончыла ўжо школу і абсталявалася на працу ў Беластоку. Гэтыя дзве, якія вось цяпер разам з бацькам укладваюць снапы пшаніцы ў прасторнай клуні, яшчэ вучацца. Адна ў ліцэі, а другая ў сельскагаспадарчай прафесіянальнай школе.

Гляджу на іх і думаю: ці застануцца яны на гаспадарцы? Дарэмна было б пытаць. Зарана яшчэ гутарыць аб гэтым. Можа, аднак, прыклад бацькі заахвоціць хаця адну з гэтых дзяўчат? Можа спакусіць іх даволі высокі гадавы даход з гэтай гаспадаркі, які ў Антона Іванюка дасягае амаль 300 тысяч злотых

— За адно малако, — кажа ён з гонарам, — бяру ў месяц 10-11 тысяч злотых. Да таго здаў ужо чатыры бычкі, кантрактую лён і бульбу.

Даход сапраўды даволі высокі, але расходы... За год прыдзецца яму сплачваць амаль мільённую пазыку, якую ўзяў ён на пабудову аборы і клуні.

— Нічога, — кажа гаспадар, — неяк сплоцім. З грошай толькі тады ёсць карысць, калі яны не ляжаць пад падушкай. Цяпер рыхтуюся да пабудовы новай хаты. Такой, як у горадзе, прасторнай, светлай, з вадой і цэнтральным ацяпленнем, каб дочкі мелі чым ганарыцца...

Ён абцёр запацелы, запылены твар і зноў паімчаўся ў поле. Няма часу на пустыя гутаркі. Трэба працаваць. Дык і мы таксама вярнуліся да сваёй машыны. Дарогу перагарадзіў нам вялізны збожжавы камбайн.

— Гэта таксама прыватная машына. — паясніў начальнік Буйноўскі.

Сапраўды, з чым тут раўняць жыццё ў цяперашнім Новым Беразове, калі па вуліцы гэтай вёскі імчацца такія вось прыватныя сельскагаспадарчыя машыны, калі жывуць тут гаспадары, як гэты Іванюк, або Кучка ці Аўласюк, якія не баяцца браць у займы па мільёну злотых..?

**Віктар Рудчык**

Імпартгумар

## ХАТНІ ТЭАТР

З жонкай я пасварыўся з-за нейкай дробязі і, як заўжды ў падобных выпадках, 'згроб паліто, насунуў капялюш і куляй вылецеў з кватэры. Ужо ў ліфце думаў, куды б падацца. Вырашыў: да суседа Райка. Паколькі Райка ўжо тры гады цярпліва чакае, калі разгледзяць яго заяву з просьбай адфамантаваць тэлефон, я вымушаны быў ісці да яго без папярэджання.

— А, гэта ты?!—здзівіўся ён, адчыняючы дзверы. Але тон, якім ён гэта сказаў, ды і ўвесь яго выгляд быццам дадавау: „Куды д'яблы нясуць? Толькі цябе тут не хапала".

Яго жонка Зорыца сядзела ў крэсле і, ледзьве хаваючы злосць, „уважліва" глядзела тэлевізар. Праўда, яна прывіталася са мною, але зусім не так прыязна, як раней.

— Не ў найлепшы час ты прыйшоў, — шапнуў мне Райка, пакуль я здымаў паліто, — з жонкай пасварыўся. Хатні тэатр. Разумееш... Кожны шлюб не без гэтага.

— Разумею, — кажу; схапіў сваю вопратку, апраўдваючыся неадкладнымі справамі, і даў ходу.

Зайду, думаю, да Боры. Пасядзім крыху, жонка яго заўсёды такая мілая — партыйку ў прэферанс згуляем... А пакуль вярнуся, мая назола трохі супакоіць свае нервы.

— Вы? — сустрэла мяне Борава жонка. Заўважаю, што твар яе падазрона гарыць баявітай чырваню.

— Ы-ы-ы, ці Бора дома? — як мага больш пачціва звяртаюся я.

— Угу, — кажа, але трэба, пэўна, разумець гэта так: „Хоць і ёсць, ды ўсё роўна, што няма".

Бора ляжаў на канапе ў кухні і абедзвюма рукамі прытрымліваў на лбе прымочку. Як я зразумеў, гэта быў фінал спектакля, а завязкай — спазненне майго сябра дадому.

— Загляну пазней... Цалую ручкі, — выконваў я далей ролю ветлівага госця.

— Вярнуўся? — іранічна вымавіла мая благаверная, сустракаючы на парозе. Я кінуўся ёй у абдымкі і пачаў цалаваць, як у час мядовага месяца.

— Любы, што з табой?

Я, зразумела, не адказаў нічога. А хацелася сказаць, што незвычайна задаволены эпілогам... І што наш хатні тэатр зусім бяскрыўдны ў параўнанні з тымі, што квітнеюць побач.

**Міадраг Тодаравіч,**
Югаславія

# НІЎКА

### НЕ ХВАЛЮЙСЯ

— Божа мой, Трафім, ты прайграў у карты паліто?!

— І гадзіннік, каханенькая, і гадзіннік, — „пацяшае" жонку прафесар Казяўка.

— Божа...

— Не хвалюйся, дарагая, ты не ўяўляеш, як мне пашанцавала: паліто і гадзіннік варты пяць тысяч злотых, а мне іх залічылі за шэсць!

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### СПОРТ

Дасканалых вынікаў дабіўся загадчык базай Шмыгун. За тэхніку ён атрымаў пяць, а за артыстычнасць — яшчэ два.

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Неўзабаве пасля адкрыцця другога фронту гітлераўскія салдаты паспрачаліся, дзе мацнейшае „нямецкае салдацкае сяброўства" — на Усходзе ці на Захадзе. Заклад выйграў салдат з Усходняга фронту.

— Дружа мой, — сказаў ён, — такога сяброўства, як у нас, нідзе больш няма. Ідзе, скажам, салдат у двухдзённы водпуск, вяртаецца, а яму насустрач бяжыць уся армія.

## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Каму прысвячаецца—той здагадаецца*

### АДМІНІСТРАТАР

Аднойчы ў нейкую ўстанову
Прызначан быў начальнік новы
І, каб работа закіпела,
Пачаў „закручваць гайкі" смела.
Ласкавага не ведаў слова,
Бо іншы спосаб ёсць — вымова.
Узяў яго ён на ўзбраенне,
Загады пішучы з натхненнем.
Увёўшы той парадак новы,
Загады клеіць і — вымовы.
Было там нават месца мала:
Сцен установы не хапала.
Начальнік жа старацца рады,
І па-ранейшаму з загадам
Да сакратаркі шпарка крочыць,
Аж тая выпрачыла вочы:
— Не разумею вас я: што вы,
Сабе ж выносіце вымову?
— На што я зараз болей здольны!
Каго ж караць? Усіх я звольніў!

**Мікола Вяршынін**

— *Дарагенькі, будзь уважлівы — далей абмежаванне хуткасці.*

Пагнаўшыся за славаю, адстаў ад жыцця.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Маладзенькая дзяўчына заходзіць у парфюмерны магазін і просіць якія-небудзь духі.

— Калі ласка, мадмуазель. Вось цудоўныя духі „Абдымкі".

— А гэтыя?

— Гэтыя называюцца „Тайны ночы". Дасканалы пах.

— А тыя во?

— „Экстаз".

— Выбачайце, а няма ў вас чаго-небудзь для пачаткоўцаў?

✲

На судзе ў Стамбуле абвінавачаны сказаў:

— На свае ахвяры я нападаў заўсёды днём. Ноччу я б баяўся хадзіць з награбленымі грашыма...

✲

Двое п'яных пасадзілі ў машыну спадарожніка, пасля чаго машына паімчалася з неймавернай хуткасцю. Спалоханы пасажыр пачаў прасіць:

— Мсье, скажыце вашаму таварышу, каб ён вёў машыну не так хутка...

— Ціш-ш, — зашаптаў сусед пасажыра, — не гаварыце так голасна: вы разбудзіце вадзіцеля, і тады ён паедзе яшчэ хутчэй.

### КАСТУСЬ ПЕРАМОГ

У разгар сямейнай баталіі жонка крычыць Кастусю:

— Ужо лепей бы я выйшла замуж за самага д'ябла!

Кастусь спакойна заўважыў:

— Але гэта немагчыма: выходзіць за блізкіх сваякоў забаронена!

### ЗРАЗУМЕЎ

Магістр Задрыповіч да жонкі:

— Мне сорамна прызнацца, але, калі мяне спытаюць, якім чынам атрымліваецца электрычны ток, я нічога не змагу сказаць. Усё, абсалютна ўсё забыў, што калісьці вучыў у школе!

— Якое глупства! Вось глядзі: я падыходжу да выключальніка, пстрыкаю — і, калі ласка, лямпачка гарыць. Зразумеў?

8888888

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Валянціны Байтручук з Войшак, а таксама А. Антанюка, М. Ружынскай і Е. Назара змяшчаем песню*

## TANGO MILONGA

słowa: **Andrzej Włast**

muzyka: **Jerzy Petersburski**

Kiedy gitary zadźwięczą
i harmonii śpiew słodko brzmi,
snuje się nicią pajęczą
echo wspomnień mych z dawnych dni.
Płynie melodia do ranka,
serca całując ustami kochanka
i cichną myśli, co dręczą,
gaśnie w piersi mej płomień krwi.
Tango milonga, tango mych marzeń i snów,
niechaj me serce ukołysze!
Tango milonga jak dawniej grajcie mi znów,
zabijcie tę dręczącą ciszę!
Żegnajcie dawne wspomnienia,
żegnajcie burze i serc uniesienia,
czas wszystko odmienia, kochanku mój,
żegnam cię, bywaj zdrów!
Tango milonga, tango mych marzeń i snów,
niechaj ostatni raz usłyszę! Tango mi-!

Tylko w piosence i winie
prawda życia jest, życia blask,
szalona noc w Argentynie
z wolna bierze mnie do swych łask.
Czasem coś w sercu zapłacze,
ozwą się dawne, obłędne rozpacze,
lecz wszystko zgaśnie i minie,
nim z melodią tą wstanie brzask.
Tango milonga...

### ШТО КАМУ

Доктар Знахарук да Гапкі:

— Не гаруйце, памятайце, што час — найлепшы доктар.

— Так, але вельмі дрэнны касметолаг!

### ПЕРШЫНЕЦ

Па прычыне з'яўлення другога дзіцяці Сілікатуны вырашылі пераехаць у большую кватэру.

— Не паможа, — паківаў галавою іх першынец, які чуў размову аб пераездзе, — ён усё роўна нас дагоніць.

### ВЕДАЕ

— Ты часам не ведаеш, хто збіраецца прадаваць машыну? — пытае дырэктар Задрыповіч дырэктара Задрыпанюка.

— Ведаю. Задрыпкоўскі.

— Ты што, празорца?

— Не, проста я добра ведаю сваю машыну, якую пазаўчора прадаў Задрыпкоўскаму.

# КУР'ЁЗЫ

### ГАЛУБЫ НА КАНВЕЕРЫ

Многія думаюць, што ў наш век галубы ўжо не могуць прынесці якой-небудзь практычнай карысці людзям, і, на жаль, памыляюцца. Напрыклад, жыхары пасёлка Ла-Рапіта на іспанскім востраве Мальорка знайшлі ім цалкам сучаснае дастасаванне, вырашыўшы, што куды выгадней пасылаць заказы на прадукты ў горад Сальер з паштовымі галубамі, чым плаціць мільён песет за тэлефанізацыю пасёлка.

У асобных сельскіх раёнах Індыі крылатыя кур'еры шырока выкарыстоўваюцца для тэрміновага выкліку лекара з найбліжэйшай бальніцы, калі раптам нехта ў вёсцы сур'ёзна захварэе. Але яшчэ далей пайшлі на адным з англійскіх заводаў, які выпускае шарыкападшыпнікі. Там спецыяльна абучаных галубоў паставілі да... канвеера — кантраляваць якасць шарыкаў. І выявілася, што пёрысты кантралёр дасканала спраўляецца з гэтай работай. Як толькі голуб прыкмеціць найменшую царапіну, тут жа б'е дзюбай па прымацаванай побач пласцінцы, шарык ідзе ў брак, а кантралёр неадкладна атрымлівае зарплату — некалькі прасяных зёрнаў. Увесь курс прафесіянальнай падрыхтоўкі займае ад трох да пяці тыдняў, а выпрацоўка на аднаго голуба дасягае 4 тысяч шарыкаў у гадзіну, прычым, зразумела, электронная кантрольная прылада абыходзіцца куды даражэй.

**Калі табе стала ясна, што месца ў гісторыі, якога ты дамагаўся, ужо занята, то паспяшайся ўлiпнуць хаця б у якую-небудзь гісторыйку, пакуль ёсць вакантныя месцы.**